# ІНФОРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ БЕЛКООПСАЮЗУ

ВЫХОДЗІЦЬ АДЗІН РАЗ У ТЫДЗЕНЬ

10-га ЛЮТАГА 1929 г.



# № 4 (13)

ДРУГІ ГОД ВЫДАНЬНЯ

ВЫДАНЬНЕ БЕЛКООПСАЮЗУ



*Пролетары ўсіх краеў, злучайцеся!*

**ІНФОРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ**

# БЕЛКООПСАЮЗУ

ВЫХОДЗІЦЬ АДЗІН РАЗ У ТЫДЗЕНЬ

Адрас: Менск, Савецкая вул., № 43

№ 4 (13) | 10 лютага 1929 г. | № 4 (13)




## ДЫРЭКТЫВЫ БЕЛКООПСАЮЗУ

### Аб справаздачна-перавыбарчай кампаніі спажывецкай кооперацыі Беларусі.

*Пастанова Праўленьня Белкоопсаюзу ад 2 лютага 1929 г., прат. № 48/178.*

Справаздачна-перавыбарчая кампанія нізавой сеткі спажывецкай коопэрацыі ў бягучым годзе, пры ўмовах, калі коопэрацыя ўсё ў большай ступені становіцца асноўнай і рашаючай сыстэмай тавара-прасоўваньня, ахоплівае ўжо зараз у актыўную коопэрацыйную працу шырокія масы працоўнага насельніцтва і ставіць пералом у бок павышэньня культурна-пэратворчай ролі,—прадстаўляе сабой кампанію вялікай палітычнай важнасьці.

Абстаноўка абвастронай клясавай барацьбы ў сувязі з рашучым наступленьнем соцыялістычных элемэнтаў гаспадаркі патрабуе ад коопэрацыі стварэньня такой згуртаванасьці батрацкай і бядняцка-серадняцкай масы пайшчыкаў, якая-б адбіла спробы кулацка-нэпманскіх элемэнтаў да ўзмацненьня свайго ўплыву на працу коопэрацыйных арганізацый у вёсцы і захвату кіраўніцтва імі.

Узмацненьне бядняцка-серадняцкага блёку, яшчэ большае замацаваньне саюзу рабочай клясы і беднаты з серадняком, пэратварэньне коопэрацыі ў сапраўдную арганізацыю шырокай самадзейнасьці працоўных—вось асноўная палітычная задача ў надыходзячай справаздачна-перавыбарчай кампаніі і ва ўсёй далейшай коопэрацыйнай працы.

Справаздачна-перавыбарчая кампанія павінна прайсьці пад адзнакай энэргічнай дзелавой крытыкі, пры найбольш поўным і актыўным удзеле шырокіх мас рабочых і бядняцка-серадняцкіх пластоў вёскі ў абгаварэньні практычных недахопаў і дасягненьняў у працы коопэрацыйных арганізацый і вызначэньні практычных задач далейшай працы спажывецкіх таварыстваў.



Організацыя і практычнае правядзеньне справаздачна-перавыбарчай кампаніі спажывецкіх т-ваў павінна выходзіць з наступных асноўных задач:

1. Забесьпячэньня далейшага ўзмацненьня грамадзкай і культурна-ператвараючай ролі коопэрацыі, шляхам глыбокай праверкі і найбольш поўнага абгляду з боку масы пайшчыкаў працы коопэрацыі, як масавай організацыі.

2. Накіраваньня дзейнасьці коопэрацыйных організацый да найбольш хуткага і поўнага ахопу ў сыстэму організованага забесьпячэньня бядняцка-батрацкіх пластоў вёскі, забясьпечваючы пры гэтым найбольшы ахоп у коопэрацыю асноўнай масы вёскі—сераднякоў.

3. Стварэньня рашучага пералому ў напрамку большага ўцягненьня ў коопэрацыю жанчын і моладзі, у першую чаргу з бядняцка-батрацкіх груп насельніцтва. Шырока папулярызуючы ільготы, якія прадстаўляюцца коопэрацыяй у адносінах гэтай катэгорыі спажыўцоў, дабіцца сапраўднага зруху ў працы па іх коопэраваньні.

4. Далейшага разьвіцьця коопэрацыі па шляху найбольш поўнага і лепшага абслугоўваньня спажыўца, што патрабуе стварэньня ўласных коопэрацыйных сродкаў шляхам рашучага павышэньня долі ўдзелу сродкаў спажыўцоў,—пагэтаму пераход на сыстэму дыфэрэнцыраванага паю і забесьпячэньне найбольш энэргічнага збору паявых капіталаў павінен стаяць у шэрагу асноўных задач у гэтай кампаніі. Саюзы і спажывецкія т-вы, на аснове матар'ялаў Белкоопсаюзу, павінны распрацаваць мерапрыемствы, якія-б забясьпечылі практычную рэалізацыю новай сыстэмы паявога ўдзелу спажыўцоў.

5. Пры правядзеньні кампаніі неабходна перад шырокімі масамі коопэраванага насельніцтва растлумачыць асноўныя задачы гаспадарчай палітыкі савецкай улады ў галіне індустрыялізацыі краіны, калектывізацыі сельскай гаспадаркі і адзначыць усе цяжкасьці, зьвязаныя з рэканструкцыяй і ўзростам нашай гаспадаркі (фінансавая проблема, няпоўнае здавальненьне попыту па шэрагу тавараў, пытаньне з хлебнымі замінкамі і г. д.). Асабліва неабходна дастаткова зразумелае высьвятленьне гэтых пытаньняў у сувязі з немінучай у пэрыяд правядзеньня кампаніі спэкуляцыяй на гэтых цяжкасьцях варожых нам элемэнтаў.

6. Асаблівая ўвага мас пайшчыкаў павінна быць накіравана на праверку загатоўчай працы коопэратыва, на праверку выпаўненьня коопэрацыяй баявых задач, ускладзеных на яе партыяй і савецкай уладай. Неабходна ўжо, на падставе абгляду гэтай працы за мінулы час, стварыць усё неабходнае для забесьпячэньня пасьпяховага правядзеньня будучай хлебазагатоўчай кампаніі.

7. Асноўвае, а па шэрагу тавараў манапольнае становішча, якое займае коопэрацыя, у значнай ступені павышае адказнасьць яе за становішча рынку, за забесьпячэньне спажыўца гораду і вёскі, за ўстанаўленьне найбольш мэтазгодных і эканомных спосабаў прасоўваньня таварных мас,—пагэтаму на пытаньне ўсямернага паляпшэньня якасьці коопэрацыйнага абслугоўваньня, рацыяналізацыю працы ва ўсіх галінах павінна быць зьвернута самая сур'ёзная ўвага.

8. Адным з самых актуальных пытаньняў зьяўляецца пытаньне падбору кіраўнічага кадру нізавых коопэрацыйных працаўнікоў. Задачай у гэтым напрамку зьяўляецца захаваньне ў складзе коопэрацыйных працаўнікоў кадру старых, адданых, зарэкамэндаваўшых на працы таварышоў, рашучае высоўваньне новых кандыдатур у органы коопэрацыі з батрацкіх і бядняцка-серадняцкіх пластоў насельніцтва, праводзячы адначасова ачышчэньне коопэрацыйнага апарату ад разложаных і чужых савецкай уладзе элемэнтаў.

9. Коопэрацыйныя організацыі павінны стаць на шлях больш рашучага высоўваньня на кіруючую грамадзкую коопэрацыйную працу жанчын і моладзі з актыўных таварышоў, зарэкамэндаваўшых сябе на грамадзкай працы.

10. Барацьба з усё ўзрастаючай хваляй растрат і злоўжываньняў, якія зьяўляюцца вялікай перашкодай коопэрацыйнаму будаўніцтву, павінна быць асабліва моцна разгорнута за ўсёй коопэрацыйнай сыстэме. Бязьлітасная чыстка коопэрацыйнага апарату ад растратчыкаў, утварэньне адпаведнай грамадзкай думкі па гэтаму пытаньню, павышэньне адказнасьці коопэрацыйнага апарату за даручаныя грамадзкія каштоўнасьці, узмацненьне дзейнасьці рэвізыйных камісій,—усё гэта ставіцца ў задачы кампаніі гэтага году.

11. Справаздачна-перавыбарная кампанія павінна насіць характар шырока-грамадзкага абгляду працы коопэрацыйных організацый. Лёзунг „100 проц. удзелу батрацкіх і бядняцка-серадняцкіх пластоў вёскі на сходах, павышэньне ролі ў коопэрацыйнай працы гэтых груп насельніцтва»—павінен знайсьці сваё поўнае вырашэньне.

12. а) Зацьвердзіць плян організацыі і правядзеньня справаздачна-перавыбарчай кампаніі ў спажывецкіх т-вах.

б) Даручыць Організацыйнаму кіраўніцтву БКС і Саюзам забясьпечыць найбольш поўнае і сваечасовае вырашэньне ўсіх пытаньняў, зьвязаных з правядзеньнем гэтай кампаніі.

в) Паставіць даклады Праўленьня БКС у спажыўтаварыствах па сетцы Гомсаюзу, Днепрасаюзу і Віцебскага саюзу ў 6-ці таварыствах кожнага саюзу, у сетцы Бабруйскага саюзу—3, Менаддзяленьня—3, Слуцкага аддз.—2. У тых спажыўтаварыствах, дзе будуць пастаўлены даклады Праўленьня БКС, даклады Райсаюзаў рабіць не патрэбна.

г) Даручыць т.т. Каструлёву і Цырліну распрацаваць тэзісы дакладаў.

## Плян організацыі і правядзеньня справаздачна-перавыбарчай кампаніі ў спаж. т-вах БССР у 1929 годзе.

### I. Падрыхтоўка кампаніі.

1. Справаздачна - перавыбарчая кампанія ў спажывецкіх таварыствах павінна быць праведзена з 1-га сакавіка па 25 красавіка 1929 г.

2. Па асобных зьвеньнях павінна быць праведзена наступная падрыхтоўчая праца:

*Па Белкоопсаюзу.*

(Падрыхтоўчая праца павінна быць скончана да 15 лютага).

а) Распрацоўка асноўных задач і лёзунгаў справаздачна-перавыбарчай кампаніі.

б) Распрацоўка пляну організацыі і правядзеньня справаздачна-перавыбарчай кампаніі.

в) Распрацоўка і выданьне форм вучоту і справаздачнасьці кампаніі.

г) Выданьне матар'ялаў аб становішчы спажыўкоопэрацыі БССР, агітлёзунгаў, адозваў, выпуск аднадзённай газэты, выданьне 2-х плякатаў, выданьне 2-х масавых папулярных кніг.

д) Высьвятленьне пытаньняў справаздачна-перавыбарчай кампаніі ў друку, выданьне матар'ялаў, характарызуючых працу сыстэмы, правядзеньне шэрагу гутарак па радыё ў цэнтральным доме селяніна.

*Па Саюзах і Аддзяленьнях Белкоопсаюзу.*

а) Прапрацоўка каляндарнага пляну кампаніі.

б) Прапрацоўка, на падставе паказаньняў Белкоопсаюзу і дырэктыў мясцовых організацый, конкрэтных задач кампаніі ў агуле і па асобных спажыўтаварыствах.

в) Організацыя і ўдзел у правядзеньні раённых коопэрацыйных нарад пры РВК для абгаварэньня пытаньняў організацыі і правядзеньня кампаніі, распрацоўкі пляну правядзеньня кампаніі ў раёне і для конкрэтнага інструктаваньня па пытаньням падрыхтоўкі.

г) Праверка нізавога коопэрацыйнага апарату пад пунктам погляду ачышчэньня яго ад варожых Савецкай Уладзе і разлажыўшыхся элемэнтаў і намячэньне новых кандыдатур на асноўную працу ў коопэратывах.

д) Падрыхтоўка неабходных матар'ялаў для правядзеньня кампаніі (тэзісы, справаздачы аб працы Саюзаў, лістоўкі), асьвятленьне ў мясцовым друку, падбор бібліатэчак для організацыі кіёскаў, выставак кніг у час сходаў пайшчыкаў, правядзеньне гутарак у Дамах Селяніна.

е) Неабходна падлічыць і праінструктаваць усіх адказных працаўнікоў Саюзаў, якія могуць быць скарыстаны для правядзеньня кампаніі. Склікаць організацыйна-інструктарскія нарады.

ж) Організацыя брыгад і індывідуальных выездаў гарадзкога коопэрацыйнага актыву на справаздачна-перавыбарчыя кампаніі ў вёску, для чаго правесьці адпаведную папярэднюю падрыхтоўку і інструктаваньне.

з) Праверка статутаў спажыўтаварыстваў і ўстанаўленьне зьмен, якія трэба ўнесьці ў статут тых ці іншых коопэратываў (зьмены раёну дзейнасьці, паявых узносаў і г. д.).

## *Па спажыўтаварыствах.*

(Падрыхтоўчая праца павінна быць скончана да 28 лютага).

а) Кожнае спажыўтаварыства, па атрыманьні паказаньняў Саюзу па падрыхтоўцы кампаніі і пасьля інструкцыйнай раённай нарады, складае конкрэтны плян падрыхтоўчай кампаніі і правядзеньня справаздачных і справаздачна-перавыбарчых сходаў, згодна тэрмінаў, вызначаных плянам Саюзу.

б) Своечасова павінны быць падрыхтованы матар'ялы па справаздачы і пляну спажыўтаварыства для дакладчыкаў, якія прымацоўваюцца для правядзеньня падрыхтоўчай працы і самага сходу па асобных пунктах коопэратыву. Загадзя павінны быць распаўсюджаны насьценныя справаздачы, плякаты, лёзунгі, спэцыяльны нумар газэты, літаратура, адозвы і г. д. Па асноўных момантах дзейнасьці спаж. т-ва павінны быць зроблены дыяграмы-плякаты для ілюстрацыі дакладаў і справаздач прадстаўнікоў спаж. таварыства.

в) Рэвізыйныя камісіі павінны правесьці рэвізыі спаж. т-ва з тым, каб на справаздачных сходах даць ацэнку працы ня толькі за 1927-28 г., але ў сваім заключэньні асобна адзначыць працу спаж. т-ва за мінулыя месяцы 1928-29 г.

г) У пэрыяд падрыхтоўкі і правядзеньня справаздачна-перавыбарчай кампаніі праўленьні спаж. т-ваў і оргасьветкамісіі павінны скарыстаць хаты-чытальні, чырвоныя і кооп. куткі, школы, коопэрацыйныя чайныя і інш. культурныя ўстановы для растлумачэньня задач справаздачна-перавыбарчай кампаніі. Для гэтага павінен быць наладжаны выпуск насьценных газэт.

д) Найбольш сур'ёзнай і адказнай працай па падрыхтоўцы кампаніі зьяўляецца найбольшая організацыя і падрыхтоўка бядняцка-батрацкіх пластоў вёскі. Пагэтаму коопэрацыйныя організацыі павінны да пачатку перавыбарчай кампаніі поўнасьцю скарыстаць Фонды Кооп. Беднаты, актыўна дапамагчы мясцовым парторганізацыям у скліканьні груп беднаты для прапрацоўкі пляну правядзеньня бядняцкіх сходаў, а потым у правядзеньні і самых бядняцка-батрацкіх сходаў. Асноўнымі пытаньнямі разгляду гэтых сходаў павінны зьяўляцца:

1. Палітычныя задачы справаздачна-перавыбарчай кампаніі і праверка працы коопэратыву па коопэраваньні і абслугоўваньні беднаты.

2. Разгляданьне кандыдатур у выбарныя органы (Праўленьні, Рэўкамісіі, Упаўнаважаныя).

3. Праект разьмеркаваньня прыбыткаў.

4. Пераход на дыфэрэнцыраваны пай.

Сходы беднаты павінны склікацца групамі беднаты сумесна з партыйнымі організацыямі і камітэтамі ўзаемадапамогі пры актыўным удзеле коопэрацыйных працаўнікоў. Рашэньні і наказы сходаў беднаты павінны рашуча адстойвацца на справаздачных і перавыбарчых сходах пайшчыкаў.

е) Для найбольшага ўцягненьня ў коопэрацыю моладзі неабходна спажыўтаварыствам прыняць актыўны ўдзел у правадзімых організа-

цыямі КСМ сходах моладзі. На гэтых сходах павінны быць абгавораны: 1) Справаздача прадстаўніка моладзі, працуючага ў коопэратыве; 2) Аб становішчы і далейшых задачах працы сярод моладзі, ільготнае коопэраваньне, культ. бытавое абслугоўваньне, удзел моладзі ў агульнай працы коопэратыву, падрыхтоўка кадраў вучнёўства, кооп-гурткі і г. д.

Для гэтага-ж неабходна склікаць асобныя сходы жанчын, на якіх таксама ставіць пытаньні становішча і далейшых задач працы сярод жанчын і справаздачы прадстаўнікоў-жанчын, працуючых у коопэрацыі.

ж) У мэтах забесьпячэньня большага ўдзелу жанчын-пайшчыц на справаздачна-перавыбарчых сходах кожным коопэратывам павінен быць вызначаны плян организацыі аднадзённых дзіцячых ясьляў і пляцовак, дзіцячых вечароў, уцягваючы ў гэтую працу піонэрскія организацыі.

Пляны гэтых мерапрыемстваў павінны быць, разам з агульным плянам, узгоднены з мясцовымі організацыямі, і ў прыватнасьці гэтае пытаньне павінна вырашацца пры актыўным удзеле дэлегатак і жанаргавізатараў.

з) Для кіно-перасовак павінны быць вызначаны конкрэтныя пляны кіно-абслугоўваньня раёнаў спаж. т-ва ў час справаздачна-перавыбарчай кампаніі, кіномэханікаў неабходна спэцыяльна праінструктаваць і скарыстаць для агітацыі сярод насельніцтва.

і) Праўленьні спаж. т-ваў павінны, не пазьней чым за тыдзень да пачатку справаздачных сходаў, склікаць шырокія нарады актыўных пайшчыкаў для прапрацоўкі пытаньняў кампаніі з тым, каб актывістыя магчыма паўней падрыхтавалі да растлумачэньня і абмеркаваньня справаздачы і пляны працы коопэратыву ўсіх пайшчыкаў і садзейнічалі найбольш актыўнаму і пагалоўнаму ўдзелу на справаздачна-перавыбарчых сходах бядняцка-батрацкіх і серадняцкіх груп пайшчыкаў.

к) Праўленьні спаж. т-ваў павінны праверыць сьпіскі членаў коопэратыву для выяўленьня тых асоб, якія ня маюць права быць сябрамі спаж. т-ва, ці зьяўляюцца сябрамі бяз права абіраць і быць абранымі ў органы спаж. таварыства.

У выпадку знаходжэньня ў ліку пайшчыкаў асоб, ня маючых права быць пайшчыкамі, яны павінны быць пастановай праўленьня неадкладна выключаны з ліку сяброў спаж. таварыства. На асоб, ня маючых права абіраць і быць абранымі, складаюцца сьпіскі і вывешваюцца да агульнага ведама. Гэтыя асобы *ня маюць права прысутнічаць* на справаздачна-перавыбарчых сходах.

л) Праўленьні спаж. таварыстваў павінны загадзя падрыхтаваць памяшканьні для сходаў, сьпіскі пайшчыкаў па раёнах, позвы, формы пратаколаў, канцэлярскія прылады, прыбраць памяшканьне сходу і хаты-чытальні плякатамі, лёзунгамі і дыяграмамі, організаваць у гэтых памяшканьнях кніжныя кіёскі, выстаўкі і г. д.

## II. Правядзеньне сходаў.

3. Кооператывы дробна-раённыя, якія налічваюць ня больш 200 сяброў, праводзяць адзін агульны сход пайшчыкаў, правёўшы папярэднюю падрыхтоўку ўсяго кооправанага насельніцтва да агульнага сходу праз актыў, шляхам удзелу ў правядзеньні сходаў груп беднаты, бядняцка-батрацкіх сходаў, сходаў жанчын, моладзі.

Спажыўтаварыствы, якія маюць пайшчыкаў больш 200 чалавек, праводзяць:

а) папярэднія справаздачныя сходы пайшчыкаў па раёнах і
б) сходы ўпаўнаважаных кооператыву.

Пры гэтым неабходна для больш пасьпяховага правядзеньня сходаў упаўнаважаных модус прадстаўніцтва ў залежнасьці ад мясцовых умоў (лік пайшчыкаў, раён дзейнасьці і г. д.) вызначаць у межах: 1 ад 3-х да 1 ад 25 членаў, па рашэньні раённых кооперацыйных нарад пры РВК.

4. Для большага прыцягненьня на сходы і лепшага апавяшчэньня пайшчыкаў і ўпаўнаважаных аб тэрміну сходу, акрамя абавязковай расклейкі аб'яў, неабходна рабіць не пазьней чым за тыдзень да сходу рассылку індывідуальных абвестак.

5. Апрача таго, сіламі актывістых, моладзі і вучняў школ, для большага азнаямленьня пайшчыкаў (і ўпаўнаважаных), павінны быць напісаны ў спэцыяльных лістоўках даныя аб працы кооператыву і яго задачах. Неабходна для гэтага-ж вывесіць гадавыя справаздачы, заключэньні рэўкамісій, дыяграмы, лістоўкі, лёзунгі і другія матар'ялы. Распаўсюдзіць сярод пайшчыкаў аднадзённую газэту, адозвы і г. д.

### *Справаздачныя раённыя сходы.*

6. Справаздачныя раённыя сходы склікаюцца ў кооператывах, якія кіруюцца сходамі ўпаўнаважаных і ў тых кооператывах, якія раней кіраваліся агульным сходам пайшчыкаў, але ў сучасную кампанію (з прычыны ўзросту колькасьці сяброў (звыш 200 чал.), пашырэньня раёну) пераходзяць на сыстэму кіраваньня Сходам Упаўнаважаных.

7. Справаздачныя раённыя сходы склікаюцца ў найбольш буйнанаселеных пунктах раёну кооператыву і ва ўсякім выпадку пры кожным аддзяленьні спаж. т-ва з пастановкай на гэтых сходах наступных пытаньняў: 1) Справаздача праўленьня спаж. т-ва і асноўныя моманты пляну працы; 2) Справаздача рэвізыйнай камісіі; 3) Пытаньне аб пераходзе на дыфэрэнцыраваны пай; 4) Справаздача ўпаўнаважаных і сяброў лаўкамісій і іх пераабраньне.

На раённым сходзе пажадана шырокае прысутнічаньне некооправанага бядняцка-серадняцкага насельніцтва.

8. На кожным раённым сходзе выпрацоўваецца наказ сваім упаўнаважаным, ажыцьцяўленьня асноўных палажэньняў якога яны павінны дабівацца на агульных сходах упаўнаважаных. Асноўныя моманты наказаў для азнаямленьня ўсіх упаўнаважаных вывешваюцца ў

канторы кооперататыву, а ў дзень сходу ўпаўнаважаных, у памяшканьні, дзе гэты сход праходзіць.

9. На сходах прадстаўнікамі Саюзаў і спаж. таварыстваў павінны ўважліва запісвацца асобныя факты, ініцыятыўныя прапановы, пытаньні, якія высоўваюцца пайшчыкамі, настрой удзельнікаў сходу і г. д.

10. Агульныя вынікі раённых справаздачных сходаў (даклады прадстаўнікоў, наказы, пратаколы, асобныя выступленьні і факты, заўвагі пайшчыкаў) абавязкова павінны абмяркоўвацца праўленьнем, рэвізыйнай камісіяй спаж. т-ва з удзелам актыву і прадстаўнікоў партыйных і савецкіх органаў, на падставе гэтага абмеркаваньня намячаецца асноўная лінія працы кооперататыву.

*Агульныя сходы і сходы ўпаўнаважаных.*

11. Сходы ўпаўнаважаных складаюцца з упаўнаважаных, зноў абраных на папярэдніх сходах упаўнаважаных, раённых справаздачных сходах пайшчыкаў (гл. п. 7).

12. На ўсіх агульных сходах упаўнаважаных і агульных сходах пайшчыкаў кооперататыву абавязкова прысутнічаньне прадстаўніка Саюзу, які, азнаёміўшыся яшчэ ў Саюзе з асноўнымі матар'яламі і становішчам кооперататыву, павінен загадзя (за 2—3 дні) да сходу на мейсцы азнаёміцца з працай і плянам кооперататыву, вынікамі правядзеньня падрыхтоўчай кампаніі раённых сходаў пайшчыкаў, сходаў беднаты і батрацтва, жанчын і моладзі. Асаблівая ўвага павінна быць зьвернута на склад кандыдатаў, якія намячаюцца ў праўленьне і рэв. камісію, на ўзгадненьне гэтых кандыдатур з мясцовымі організацыямі. Прадстаўнік Саюзу павінен праінструктаваць мясцовых працаўнікоў аб асноўных пытаньнях сходу і яго правядзеньні.

13. Абвестка дню сходу ўпаўнаважаных і агульных сходаў пайшчыкаў прапануецца наступная: 1. Даклад аб працы Саюзу; 2. Справаздачы праўленьня і рэўкамісіі аб працы кооперататыву (ацэнка дзейнасьці спаж. т-ва, зацьверджаньне справаздачы, разьмеркаваньне прыбыткаў); 3. Аб пераходзе на дыфэрэнцыраваны пай і іншыя статутныя пытаньні; 4. Плян працы кооперататыву і каштарыс выдаткаў на 1928-29 год; 5. Выбары праўленьня і рэўкамісіі.

14. Разьмеркаваньне прыбыткаў спаж. т-ва за 1927-28 г. за вылікам падатковага прыбытку рэкамэндуецца рабіць наступным шляхам: 1. У фонд доўгатэрміновага крэдытаваньня кооперацыі — 10 проц.; 2. У фонд кооперавацьня беднаты і батракоў—15 проц.; 3. У запасны капітал—10 проц.; 4. У фонд коопасьветнай і бытавой працы—15 проц.; у тым ліку на Кооперацыйны Інстытут—1 проц.; 5. У асноўны капітал—50 проц.

Апрача таго, гарадзкія спажыўтаварыствы адлічваюць за кошт зьмяншэньня адлічэньняў у асноўны капітал—10 проц. у фонд палепшаньня быту рабочых і служачых кооперататыву.

15. У адносінах складу выбарных органаў спажыўтаварыствам неабходна ў гэтай справаздачнай кампаніі захаваць у праўленьнях

спаж. тав. зарэкамэндаваўшых сябе, сумленных, карыстаючыхся давер'ем пайшчыкаў, працаўнікоў і палепшыць сацыяльны склад праўленьняў, рэвізыйных камісій і ўпаўнаважаных за лік рашучага высоўваньня лепшых кандыдатур з бядняцка-батрацкіх пластоў сялянства і высоўваньня найбольш дзелавых і адданых кандыдатур з серадняκоў.

Кандыдатуры ў коопэрацыйныя органы павінны быць дакладна абмяркованы да самага сходу—на сходах беднякоў, батракоў, сходах актыву. Сьпіскі кандыдатаў вывешаны дзеля агульнага ведама. Выбары павінны вытварацца шляхам пэрсанальнага галасаваньня, пасьля папярэдняга разгляданьня кожнай кандыдатуры, а ў прыватнасьці неабходна дабівацца павышэньня ўвагі да фарміраваньня і працы рэўкамісій.

16. На агульных сходах і сходах упаўнаважаных пратаколы павінны быць найбольш поўнымі, дзе павінны адбівацца ўсе пытаньні і асноўныя моманты спрэчак, прапаноў пайшчыкаў і г. д.

## III. Вучот і справаздачнасьць па кампаніі.

17. Вучот і справаздачнасьць павінны ахапіць ня толькі справаздачна-перавыбарчую кампанію, але і ўсю падрыхтоўчую працу, праведзеную да гэтай кампаніі.

18. Вучот і справаздачнасьць праводзяцца па адзіных формах ва ўсёй Беларусі і павінны ахапіць наступныя моманты:

а) лік праведзеных сходаў беднаты і лік прысутнічаўшых на іх, тое самае ў адносінах сходаў жанчын і моладзі.

б) весткі аб раённых сходах, ліку прысутных, ліку выступленьняў, складзе лаўкамісій і інш.

в) весткі аб агульных сходах і сходах упаўнаважаных, складзе выбарчых органаў і інш.

19. Прадстаўнік Саюзу на сходзе павінен не пазьней 3-х дзён па сканчэньні перавыбарчага сходу прадставіць у Саюз усе матэр'ялы і справаздачу па правядзеньні кампаніі ў даным спаж. т-ве. Акрамя даных фармальнага парадку, павінен быць прадстаўлены матар'ялы, якія малююць актыўнасьць настрою, найбольш характэрныя моманты сходаў, выступленьняў і г. д.

20. У Саюзе вылучаецца адзін чалавек спэцыяльна для абагуленьня і прапрацоўкі фактычных матар'ялаў справаздачна-перавыбарчай кампаніі.

Увесь матар'ял справаздачна-перавыбарчай кампаніі павінен быць прадстаўлены па ўстаноўленых формах Белкоопсаюзу не пазьней 15 мая 1929 г.

21. Для больш рэгулярнай інфармацыі аб ходзе справаздачна-перавыбарчай кампаніі Саюзы за кожныя 15 дзён прадстаўляюць зьвесткі па ўстаноўленай форме БКС (1 карэспандэнцкі агляд да 20, і 5 чысла кожнага месяцу). Першыя зьвесткі высылаюцца да 20 сакавіка.



# Інструкцыя па запаўненьні форм вучоту справаздачна-паравыбарчай кампаніі 1929 г. у спажывутаварыствах БССР.

## *I. Рэгістрацыя пайшчыкаў.*

На раённых і агульных сходах пайшчыкаў вядзецца вучот прысутвічаўшых пайшчыкаў па асобнаму «рэгістрацыйнаму сьпісу». Для кожнага пайшчыка адводзіцца адзін радок, пры чым у падзеле «адзнакі» адзначаецца—ці коопэраваны пайшчык за рахунак ФКБ, ці зьяўляецца ён моладзьдзю да 23-х год, ці жанчынай. Адзнака робіцца шляхам упісваньня ў адпаведнай графе адзінкі (1). Для пайшчыка да 23 х год упісваецца адзінка (1) у графе «моладзі да 23-х г.»; для пайшчыцы да 23-х г. адзнака робіцца ў графе «жанчын» і адначасова ў графе «моладзі да 23-х г.»; у тым выпадку, калі апошняя (пайшчыца да 23-х г.) коопэравана за рах. ФКБ, робіцца адзнака таксама ў графе «коопэравана за рах. ФКБ». Калі пайшчыку, коопэраванаму за рах. ФКБ, звыш 23-х г., упісваецца адзінка (1) толькі ў графу «коопэраваны за рах. ФКБ»; калі гэтаму пайшчыку менш 23-х год, упісваецца адзінка (1) таксама ў графу „моладзі да 23 г.“ і г. д.

У канцы рэгістрацыйнага сьпісу па зробленых адзнаках (1) падлічваецца лік жанчын, лік коопэраваных за рах. ФКБ і лік моладзі да 23-х год.

Для няпайшчыкаў, якія прысутнічаюць на сходах, вядзецца вучот агульнага іх ліку і колькі сярод іх маецца жанчын і моладзі да 23-х г. Рэгістрацыя пайшчыкаў і няпайшчыкаў у адным сьпісу не павінна дапушчацца.

На сходах, асобна па справаздачах праўленьня і рэўкамісіі і асобна па справаздачах крамкамісій, адзначаецца лік зададных пытаньняў і агульны лік асоб, якія выказаліся ў спрэчках, і колькі сярод апошніх было жанчын.

## *II. Запаўненьне ф. № 14 „Весткі аб раённым сходзе“.*

Па сканчэньні раённага сходу, не пазьней наступнага дня, прадстаўніком спажыўтаварыства запаўняецца ф. № 14—«Весткі аб раённым сходзе пайшчыкаў». У гэтай форме з рэгістрацыйнага сьпісу ўпісваецца лік прысутнічаўшых на сходзе пайшчыкаў і ў тым ліку коопэраваных за рах. ФКБ, жанчын і моладзі; з пратаколу сходу ўпісваецца лік прысутнічаўшых няпайшчыкаў і колькі сярод іх было жанчын і моладзі. Таксама ўпісваецца лік зададных пытаньняў і лік асоб, якія выказаліся ў спрэчках.

На тварным баку гэтай формы запісваюцца члены і кандыдаты новаабранай крамнай камісіі, а на адваротным баку члены і кандыдаты новаабраных упаўнаважаных. У графе «Ці быў у папярэднім складзе»—адзначаецца—«быў» ці «ня быў» новаабраны ў *апошнім* складзе, які зараз быў пераабраны. У 6, 8, 10 і 11 графах імянных сьпісаў (крамкамісіі і ўпаўнаважаных) паказваецца адно з таго, што пералічана ў загалоўках гэтых граф. Калі новаабраны зьяўляецца с.-гасп. рабочым, валежыць у 10 графе абавязкова паказаць «с.-г. рабочы», а ня проста „рабочы“.

Весткі аб раённым сходзе пайшчыкаў і рэгістрацыйны сьпіс прысутнічаўшых прыкладаюцца да пратаколу раённага сходу і адсылаюцца неадкладна ў кантору т-ва.

Спажывецкія т-вы, якія кіруюцца Агульным Сходам пайшчыкаў, ф. № 14 „Весткі аб раённым сходзе" не запаўняюць зусім.

### *III. Запаўненьне ф. № 15 „Справаздача".*

Пасьля паступленьня ф. № 14 «Весткі» ад усіх сходаў, таварыства неадкладна запаўняе 1-ы падзел справаздачы (ф. № 15) „Падрыхтоўчая кампанія".

Лік раённых сходаў па графе—1 справаздачы павінен адпавядаць фактычнаму ліку праведзеных сходаў і ліку атрыманых форм № 14 „Весткі".

Лік пайшчыкаў у раёне дзейнасьці спаж. т-ва не павінен разыходзіцца з сапраўднымі данымі.

Графы 9—21 запаўняюцца з тэкставай часткі ф. № 14 „Весткі".

Графы 22—29—„папярэднія спэцыяльныя сходы" запаўняюцца з рэгістрацыйных сьпісаў, якія вядуцца на папярэдніх спэцыяльных сходах беднаты, жанчын і моладзі, альбо з пратаколаў гэтых сходаў.

Графы 24—27 „У тым ліку батракоў і с.-г. рабочых" запаўняюцца шляхам падліку ў рэгістрацыйных сьпісах спэцыяльных адзнак, якія робяцца для батракоў і с.-гасп. рабочых, прысутнічаўшых на сходах беднаты і жанчын.

Спаж. таварыствы, якія кіруюцца Сходам Упаўнаважаных, вядуць вучот прысутнічаўшых на сходзе ўпаўнаважаных таксама па рэгістрацыйных сьпісах. Асобны сьпіс складаецца на ўпаўнаважаных (членаў і кандыдатаў) і асобны сьпіс сумесна для пайшчыкаў, якія не зьяўляюцца ўпаўнаважанымі, і няпайшчыкаў. У абодвых сьпісах робяцца адзнакі для прысутнічаўшых жанчын і акрамя таго ў першым сьпісу па графе „Увага" робяцца адзнакі для кандыдатаў ва ўпаўнаважаныя, якія не карыстаюцца правам рашаючага голасу, а ў другім сьпісе для няпайшчыкаў.

II і III падзел справаздачы запаўняюцца неадкладна пасьля правядзеньня перавыбарчага сходу.

Графы 30—36 запаўняюцца з рэгістрацыйных сьпісаў, якія вядуцца на перавыбарчым сходзе.

Графы 31 і 32 запаўняюцца толькі спаж. т-вамі, якія кіруюцца Сходам Упаўнаважаных і ў іх уключаюцца як упаўнаважаныя (члены), так і тыя кандыдаты, якім дано на сходзе права рашаючага голасу. Астатнія кандыдаты ва ўпаўнаважаныя паказваюцца па графах 33 і 34 сумесна з пайшчыкамі, якія не зьяўляюцца ўпаўнаважанымі.

Графы 37—42 справаздачы запаўняюцца з пратаколу сходу.

Графы 43—51 „Чысты прыбытак" запаўняюцца тымі спаж. т-вамі, якія закончылі 1927-28 гаспадарчы год з прыбыткам.

У графе 43 паказваецца агульная сума чыстага прыбытку за 27-28 г. за вылікам сумы падаходнага падатку.

У свабодных графах 49,50 і 51 упісваюцца іншыя адлічэньні, якія не пералічаны ў графах 44—48.—Сума ўсіх граф 44—51 павінна абавязкова быць роўнай агульнай суме прыбытку, паказанай у графе 43.

У графу 52 запісваецца разьмер статутнага нормальнага паю, які існаваў да перавыбарчага Сходу, а ў графе 53 паказваецца разьмер дыфэрэнцыраванага паю, устаноўленага для розных груп пайшчыкаў. Разьмеры паніжаных паёў—для другіх членаў сям'і, беспрацоўных, інвалідаў і вучняў не паказваюцца зусім.

У графу 54 запісваецца сума растрат, недахопаў звыш устаноўленых норм і выданы неаформлены крэдыт.

У графе 55 паказваецца лік асоб, якія абвінавачваюцца ў растраце, недахопе і выдачы неаформленага крэдыту.

У графе 56 коратка запісваецца пастанова сходу.

У III падзеле справаздачы весткі аб новым складзе органаў кіраваньня і кантролю даюцца асобна па членах і кандыдатах. Весткі аб старым (папярэднім) складзе праўленьня і рэўкамісіі даюцца толькі аб членах без кандыдатаў.

Весткі аб крамкамісіях і ўпаўнаважаных запаўняюцца па ўсіх графах гэтага падзелу (57—90) з форм № 14 „Весткі“.

У графе 57 па падзелу „Стары склад“ паказваюцца весткі аб складзе членаў праўленьня і рэўкамісіі па іх становішчу к моманту перавыбарчага сходу.—З агульнага ліку абраных, паказаных па графе 57, вылучаецца лік: 1) якія былі ў папярэднім складзе, 2) платных, г. зн. якія знаходзіліся на сталай працы, 3) жанчын і 4) коопэраваных за рах. ФКБ.

У графе 58 паказваецца лік новаабраных, якія былі ў апошнім (папярэднім) складзе; калі былы кандыдат у мінулым складзе абраны зараз у члены, альбо былы член абраны зараз у кандыдаты, трэба ў гэтых абодвых выпадках лічыць, што яны былі ў папярэднім складзе. Для старага складу праўленьня і рэўкамісіі графа 58 не запаўняецца зусім.

Графа 59 запаўняецца толькі для праўленьня новага і старага складу.

У графах 62—87 даецца разьмеркаваньне агульнага ліку абраных па партыйнасьці, узросту, коопэрацыйнаму стажу, адукацыі, нацыянальнасьці і сацыяльнаму становішчу. Сума граф кожнага з гэтых падзелаў павінна абавязкова раўняцца агульнаму ліку па графе 57.

Сябры ЛКСМБ, якія зьяўляюцца кандыдатамі або членамі КП(б)Б — паказваюцца па графе 62 „КП(б)Б“.

Весткі па коопэрацыйнаму стажу даюцца толькі для членаў і кандыдатаў праўленьня і рэўкамісіі.

Пад коопэрацыйным стажам належыць разумець колькасьць гадоў фактычнай працы ў галіне коопэрацыі, як на выбарчай, так і на службовай пасадзе. Праца ў складзе крамкамісіі, упаўнаважаных, оргасьветкамісіі і стаж дэлегатак коопсэкцыі не прылічваецца новаабранаму члену і кандыдату праўленьня і рэўкамісіі, як коопэрацыйны стаж.

Калі новаабраны член ці кандыдат праўленьня і рэўкамісіі працаваў у коопэрацыі з некаторым перапынкам, лік фактычна прапрацаваных гадоў у мінулым далучаецца да яго коопэрацыйнага стажу.

У графах 79 і 80 пералічваюцца іншыя нацыянальнасьці, якія не паказаны ў графах 75—78.

У графах 81—83 паказваецца лік беднякоў, серадиякоў і заможных на падставе мясцовай характарыстыкі. Батракоў і с.-гасп. рабочых належыць паказаць асобна (гр. 84) ад іншых рабочых (гр. 85).

У графах 88—90 даецца разьмеркаваньне абраных сялян, лік якіх паказаны па графах 81—83, па абкладаньню с.-гасп. падаткам у 1927-28 г. Сума трох граф 88—90 павінна абавязкова раўняцца суме трох граф 81—83.

Вучастковы інструктар, альбо прадстаўнік Саюзу, які прысутнічаў на сходзе павінен прымаць удзел у запаўненьні „Справаздачы“.

Справаздача падпісваецца старшынёю і сябрамі праўленьня старага складу і рахункаводам т-ва і не пазьней 2-х дзён пасьля перавыбарчага сходу адсылаецца свайму Саюзу.

Рэгістрацыйныя сьпісы прысутнічаўшых на сходах і формы № 14 „Весткі аб раённым сходзе“ застаюцца ў канторы спажыўтаварыства і Саюзу не адсылаюцца.

Стат. п/Аддзел Белкоопсаюзу.

## Лёзунгі да справаздачна-перавыбарчай кампаніі ў спажывецкай коопэрацыі.

1. За выразную клясавую лінію ў коопэрацыі. За моцны саюз рабочае клясы і беднаты з серадняком. У наступленьне на кулацтва.

2. Толькі пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі, коопэрацыя ішла і пойдзе па шляху соцыялістычнага будаўніцтва.

3. Наступленьне соцыялізму абвастрае супраціўленьне клясавых ворагаў. Узмоцнім агонь па кулаку, нэпману, шкодніку-растратчыку і іх падсобніках-бюрократах.

4 Выбірайце ў коопэрацыйныя органы сумленных, упартых, надзейных кандыдатаў з рабочых, беднякоў, батракоў і серадпякоў.

5. Пайшчык! Дабівайся, каб ніводнае карыснае для коопэратыву рашэньне, прынятае на агульным сходзе, не засталося неправедзеным у жыцьцё.

6. Больш батракоў і беднякоў у коопэрацыю і яе кіруючыя органы.

7. Лепшых жанчын грамадчыц з работніц, батрачак і бяднячак пашлём у кіруючыя органы коопэрацыі.

8. Рабочая і сялянская моладзь—у рады коопэрацыі. Скарыстай ільготы, дадзеныя табе спажывецкай коопэрацыяй, уступай у пайшчыкі, будзь актыўнай у працы свайго коопэратыву.

## Аб увядзеньні дыфэрэнцыраванага паю.

*Пастанова Праўленьня Белкоопсаюзу ад 5 лютага 1929 г. пратакол № 49/179.*

1. Спажывецкая коопэрацыя ў сучасны момант зьяўляецца асноўнай і рашаючай сыстэмай прасоўваньня тавараў да спажыўца гораду і вёскі. Удзельная вага яе ў розьнічным гандлю зараз ужо вызначаецца ў 67—70 проц. Па цэламу шэрагу асноўных тавараў (спажыўныя, мануфактура) коопэрацыя зьяўляецца адзіным і манапольным прадстаўніком.

2. Усё ўзрастаючыя патрэбы ў таварах з боку спажыўца гораду і вёскі, неабходнасьць пашырэньня асортымэнту па цэламу шэрагу тавараў (пасудных, скабяных, сілікатных), увядзеньне ў асортымэнт коопэрацыі шэрагу тавараў, яшчэ не атрымаўшых свайго неабходнага разьвіцьця (гатовае адзеньне, абутак, радыё, шорныя тавары), шпаркі ўход з рынку прыватнага гандлю—усё гэта разам узятае ставіць перад коопэрацыяй пытаньне аб далейшым павялічэньні зваротаў у разьмерах, якія-б забясьпечылі здавальненьне рынку ня толькі ў сувязі з ростам патрэб насельніцтва, але і ў сувязі з разгортваньнем новай сеткі крам, узамен выбыўшых з рынку прыватна-гандлёвых прадпрыёмстваў.

3. Павялічэньне зваротаў патрабуе наяўнасьці пэўных зваротных фондаў. Да гэтага часу фінансаваньне коопэрацыйных зваротаў праходзіла галоўным чынам за кошт дзяржаўных сродкаў. Так, з складу зваротнага капіталу ўсёй сыстэмы на 1/Х-28 г. (31 міл. руб.) доля ўласных сродкаў вызначаецца толькі ў 22,6 проц.; па асобным сэктарам і зьвеньням сыстэмы доля ўласных сродкаў у складзе зваротных капіталаў вызначаецца так: па Спажтаварыствах—46 проц., па Райсаюзах—17 проц., па ЦРК і ГАРПО—12 проц. Асноўнай і вызначаючай далейшае разьвіцьцё коопэрацыі задачай зьяўляецца энэргічнае ўтварэньне ў кайкаротшы тэрмін уласных зваротных капіталаў. Неабходнасьць гэтага выклікаецца яшчэ і тым, што доля дзяржаўных сродкаў, якія знаходзіліся да гэтага часу ў коопэрацыі, павінна скарачацца і ісьці на індустрыялізацыю краіны.

4. Адной з асноўных крыніц коопэрацыйнага капіталанакапленьня павінны зьявіцца сродкі самых спажыўцоў у выглядзе паявых узносаў. Да гэтага часу паявыя капіталы ня мелі значнай ролі. Дастаткова сказаць, што толькі спажывецкім т-вам неабходна для здавальненьня таварных запатрабаваньняў мець 19 руб. зваротнага фонду і 6 руб. у маёмасьці і інш. нярухомых капітоўнасьцях, а ўсяго 25 руб. у сярэднім на кожнага пайшчыка. Сярэдні-ж паявы ўзнос пайшчыка зараз складае толькі 6 р. 50 кап. Такім чынам сродкі спажыўцоў, па сваіх разьмерах, нават па гэтых даных зусім недастатковыя, і ня кажучы ўжо аб тым, што саюзнае зьвяно мае патрэбу ў сродках ня ў меншых разьмерах, чым спажывецкія таварыствы.

5. Пераход у працягу бліжэйшых некалькіх год на працу пераважна з уласнымі сродкамі—асноўная задача спажывецкай коопэрацыі. Неабходна павысіць матар'яльны ўдзел пайшчыкаў, прычым, сама

сыстэма ўзносу паявых капіталаў павінна будавацца ў залежнасьці ад сацыяльна-маёмаснага становішча асобных груп пайшчыкаў, гэта зн., што пай устанаўляецца розных разьмераў (дыфэрэнцыраваны) для асобных груп пайшчыкаў.

6. Для вясковага насельніцтва, якое займаецца сельскай гаспадаркай, устанавіць 3 групы па разьмерах паю: а) першая група (вызваленыя ад сельгасп. падатку)—10 руб., б) другая група (якія плацяць сельска-гаспадарчы падатак без надбаўкі і з надбаўкай)—25 р., в) трэцяя група (якія плацяць падатак у індывідуальным парадку)— 40 руб.

7. Уст.навіць для рабочых і служачых гарадзкіх і сельскіх мясцовасьцяй разьмер паю ў залежнасьці ад таго, да якой з пяці груп яны належаць.

15 руб. паю для атрымоўваючых штомесячна заробак да 50 руб., 20 руб. для атрымоўваючых ад 50 р. да 100 руб., 30 руб.—ад 100 р. да 150 руб., 40 руб.—ад 150 р. да 225 руб., 50 руб.—звыш 225 руб.

8. Для другіх членаў сям'і, якія адносяцца да груп насельніцтва, паказаных у п. 6, і якія ня маюць самастойнага заробку—устанавіць разьмер паявога ўзносу ў 1/4 (25 проц.) паю асноўнага члена сям'і. Для другіх членаў сямей—утрыманцаў рабочых, служачых і іншых катэгорый насельніцтва, якія прыраўніваюцца па аплаце паю да гэтых груп—устанавіць ільготны пай у 1/4 разьмеру асноўнага паю для атрымоўваючых зарплату ці даход да 100 руб. і для атрымоўваючых зарплату звыш 100 руб.—у разьмеры 1/3 статутнага паю.

9. Устанавіць паніжаны пай у разьмеры 5 руб. па сельскіх мясцовасьцях і 7 р. 50 кап. па гарадзкіх мясцовасьцях:

а) для інвалідаў працы і Раб.-сял. Чырв. Арміі, якія атрымоўваюць дапамогу ці пэнсію ня звыш 20 руб. у месяц;

б) для рабочых і служачых з заробкам ня звыш 20 руб. у месяц (па саюзу Нарпіт, дамашнія работніцы і г. д.).

10. Лічыць неабходным абмежаваць круг беспаявых членаў спажывецкіх таварыстваў:

а) чырвонаармейцамі і чырвонафлётцамі, устанавіўшы для іх выплату ўступнога ўзносу ў разьмеры 50 кап. і аслабаніўшы іх ад узносу паю на ўвесь час службы ў Чырвонай арміі ці ў Чырвоным флёце.

б) беспрацоўнымі, якія не састаяць на чыім-нібудзь утрыманьні, аслабаніўшы іх на тых самых падставах ад узносу паю на ўвесь час беспрацоўя, але з абавязацельствам раз у квартал сьведчыць адпавядаючае спажывецкае таварыства аб сваім беспрацоўі.

11. Устанавіць, што пайшчыкі спажывецкіх таварыстваў, якія належаць да камскладу РСЧА, а таксама інваліды і пэнсыянэры, якія атрымоўваюць дапамогу ад сацстраху альбо органаў сацыяльнага забесьпячэньня ў размеры звыш 20 рублёў, павінны выконваць свае паявыя абавязкі на агульных падставах у залежнасьці ад жалаваньня ці дапамогі, якую яны атрымоўваюць (п. 7).

12. Для вучняў лічыць неабходным вызначыць наступныя разьмеры паю: а) для стыпэндыятаў і маючых самастойны заробак—

агульная норма паю ў залежнасьці ад разьмеру стыпэндыі ці заробку (п. 7 і 9); б) для тых, хто знаходзіцца на ўтрыманьні бацькоў ці іншых асоб—нормы другіх членаў сям'і, якія ня маюць самастойнага заробку, г. зн. 1/4 паю асноўнага члена сям'і.

13. Устанавіць, што: а) для сялян-пайшчыкаў ГАРПО, якія займаюцца сельскай гаспадаркай, разьмер паю вызначаецца ў залежнасьці ад прыналежнасьці да адной з трох груп, якія ўстаноўлены для пайшчыкаў Сельпо: першая група—вызваленыя ад сел.-гасп. падатку—10 руб., другая група, якія плацяць падатак без надбаўкі і з надбаўкай—25 руб. і трэцяя група—якія плацяць падатак у індывідуальным парадку—40 р.

б) Для членаў прафсаюзаў—пайшчыкаў Сельпо разьмер паю вызначаецца ў залежнасьці ад прыналежнасьці да адной з пяці груп, устаноўленых для пайшчыкаў ЦКР і ГАРПО (п. 7).

14. Саматужнікі, адносна выкананьня паявых абавязкаў, прыраўніваюцца да той ці іншай групы пайшчыкаў—служачых і рабочых, у залежнасьці ад сярэдня-месячнага даходу (п. 7).

15. Для сэзонных прыезджых рабочых устанавіць норму паю ў разьмеры 1/4 часткі паю той групы рабочых і служачых, да якой гэты сэзонны рабочы належаць па свайму заробку (п. 7).

Унясеньне паю сэзоннымі рабочымі вытвараецца ў тэрмін ня больш чым у 3 месяцы роўнымі часткамі, па ўзгадненьні з адпавядаючымі прафсаюзамі. Зварот паю сэзоннаму рабочаму па сканчэньні ім сэзоннай працы вытвараецца коопэратывам не чакаючы зацьвярджэньня гадавой справаздачы. Гэты пункт не распаўсюджваецца на будаўнічых рабочых, якія пастаянна жывуць у мейсцы вытварэньня працы.

16. Устанавіць наступны парадак выплаты, пераводу і перадачы паявых узносаў (за выключэньнем груп пайшчыкаў, паказаных у п. 10 і 15):

а) Зноў паступаючы пайшчык па сельскай і гарадзкой сетцы, за выключэньнем першай групы—якія плацяць 10 руб. (п. 6), уносіць першапачатковы ўзнос у пагашэньне паю ня менш 1/10 часткі паявога ўзносу, устаноўленага для групы, да якой ён належыць. Астатняя частка паю пагашаецца ў наступныя тэрміны. Першай групе пайшчыкаў (вызваленых ад падаткаў) растэрміноўка ўзносаў устанаўляецца ад 3 да 5 год, незалежна ад таго, коопэраваны пайшчык за лік фондаў коопэр. беднаты, ці за свой кошт. Для пайшчыкаў 2-й групы, якія плацяць пай у разьмеры 25 р., тэрмін узносу вызначаецца ад 1 да 3-х год, г. зн. для пайшчыкаў па свайму маёмаснаму становішчу набліжаючыхся да першай групы і якія плацяць нізкія стаўкі падатку,—тэрмін узносу 3 гады, пайшчыкам больш заможным тэрмін скарачаецца. Для трэцяй групы пайшчыкаў, якія плацяць падатак у індывідуальным парадку, тэрмін узносу вызначаецца ад 6 да 18-ці месяцаў.

б) Унясеньне паявых узносаў у спажывецкіх таварыствах устанаўляецца паквартальна, улічваючы плацежаздольнасьць насельніцтва ў асобныя перыяды году.

Па сканчэньні ільготнага тэрміну праз адзін месяц на няспраўна ўносячых узносы пайшчыкаў робіцца ўзьдзейнічаньне грамадзкім парадкам, па сканчэньні 2-х мес. гэтыя пайшчыкі пазбаўляюцца забесь-

пячэньня таварамі, а пасьля 6-ці месяцаў з дня скачэньня ільготнага тэрміну, ставіцца пытаньне аб выключэньні неакуратных пайшчыкаў з ліку членаў таварыства.

*Увага*. Трэцяй групе пайшчыкаў, паказаных у п. 6, ільготныя тэрміны не даюцца.

в) Тэрмін узносу паявых узносаў для рабочых і служачых і для ўсіх іншых груп насельніцтва, якія прыраўніваюцца да іх у аплаце паю (для першых і другіх членаў сям'і), устанавіць—2 гады.

г) Пэрыядычна вытвараецца вучот заробку членаў з мэтай устанаўленьня правільнасьці вылічэньня паявых узносаў. Праверка заробку вытвараецца з прыцягненьнем крамных камісій.

д) У выпадку зьмены акладу жалаваньня ці даходу, вытвараецца перараўлік разьмеру паю і адпаведнаму пайшчыку ці зварочваецца лішак унесеных ім паявых сродкаў, ці дадаткова сыскваецца з яго астатняя частка паю, выходзячы з павялічанага акладу ці даходу, пры чым, па жаданьню пайшчыка, лішак паю можа быць залічаны ў дадатковы пай.

е) У адносінах пераводу паю з аднаго спаж. таварыства ў другое, застаецца цяпер дзейнічаючае правіла.

ж) Перадача паю можа быць вытварана як асобе, якая зьяўляецца членам спажывецкага т-ва, так і ня члену спаж. т-ва, калі апошняя не пазбаўлена гэтага права. Пай перадаецца як па заяве пайшчыка, так і па яго завяшчаньню.

17. Адказнасьць пайшчыка ўстанаўляецца ў разьмеры таго паю, які з яго належыць.

18. Дыфэрэнцыраваны пай павінен быць уведзен па ўсёй сетцы спажывецкай коопэрацыі ў час справаздачна-перавыбарчай кампаніі 29 г. Для вызначэньня разьмераў узносаў для пайшчыкаў, устанаўленьня тэрмінаў узносаў утвараюцца спэцыяльныя камісіі пры спаж. таварыствах, якія карыстаюцца ў сваёй працы данымі падатковага абкладаньня і спраўкамі ўстаноў.

## Аб прыёме ў члены спажыўтаварыстваў асоб, якія знаходзяцца на соцыяльным забесьпячэньні і ўтрыманьні органаў Наркамсабезу і Наркампрацы.

*Усім Спажывецкім таварыствам і ЦРК БССР.*

З мейсц паступаюць зьвесткі аб тым, што праўленьні некаторых спажывецкіх таварыстваў і ЦРК адмаўляюць у прыёме ў пайшчыкі спажывецкае коопэрацыі асобам, якія знаходзяцца на соцыяльным забесьпячэньні і ўтрыманьні органаў Народнага Камісарыяту Соцыяльнага Забесьпячэньня і Народнага Камісарыяту Працы і працуюць у якасьці сяброў інвалідных коопэрацыйных арцеляў, і нават ставяць пытаньне аб выключэньні з пайшчыкаў раней прынятых інвалідаў пры правядзеньні перарэгістрацыі.

Белкоопсаюз і Белрабсэкцыя паведамляюць усе спаж. т-ва і ЦРК, што ўсе інваліды, якія маюць права на дзяржаўнае забесьпячэньне, карыстаюцца выбарчымі правамі ў Саветы. Знаходжаньне іх у складзе інвалідных арцеляў не выключае іх з кантынгэнту органаў НКСацыяльнага Забесьпячэньня і НКПрацы, а павінна разглядацца толькі як адзін з відаў сацыяльнага забесьпячэньня. Выключэньне з пайшчыкаў спажывецкай коопэрацыі інвалідаў—членаў інвалідных арцеляў, не пазбаўленых выбарчых правоў, зьяўляецца незаконным.

Пагэтаму Белкоопсаюз і Белрабсэкцыя прапануюць усім спаж. таварыствам і ЦРК да выкананьня наступнае:

1. Не супярэчыць прыёму ў пайшчыкі спажывецкіх коопэратываў контынгэнту органаў НКСацыяльнага Забесьпячэньня і НКПрацы, што працуе ў якасьці членаў або па найму ў інвалідных коопэрацыйных арцелях, прыраўняючы іх да адпаведных па зарплаце груп рабочых і служачых.

2. Асоб адзначанага контынгэнту, якія да гэтага часу былі выключаны з ліку пайшчыкаў спажывецкіх коопэратываў па тэй толькі прычыне, што яны працавалі ў інвалідных арцелях, залічыць у пайшчыкі, без унясеньня імі ўступных узносаў.

Нам. старшыні праўленьня БКС **Хаскін.**

Старшыня прэзыдыуму Белрабсэкцыі **Кумкес.**

№ 15579.
26-XII—1928 г.

## Палажэньне аб жанкоопорганізатарах на вёсцы.

*Зацьверджана Праўленьнем Белкоопсаюзу ад 5-1—29 г., прат. № 41-171.*

1. Выдзяленьне інстытуту жанкоопорганізатараў пры спажывецкіх таварыствах мае мэтай: а) узмацненьне работы па коопэраваньні сялянак (батрачак, работніц саўгасаў, беднячак, і серадначак), б) узмацненьне коопэрацыйна-асьветнай працы сярод сялянак, в) узмацненьне бытавой працы спаж. таварыстваў.

2. Організатары па коопэраваньні жанчын вылучаюцца праўленьнем са складу жаночага коопэрацыйнага актыву наступным парадкам: а) у аднакрамным спаж. т-ве вылучаецца 1 організатар па коопэраваньні жанчын, б) у шматкрамным спажывецкім т-ве вылучаюцца організатары па коопэраваньні жанчын з такім разрахункам, каб у кожным пункце, дзе маецца аддзяленьне спаж. т-ва, быў організатар па коопэраваньні жанчын, в) у спажыўтаварыствах, дзе маецца некалькі організатараў па коопэраваньні жанчын, праўленьне адзін раз у месяц склікае нараду жанкоопорганізатараў, дзеля прапрацоўкі пытаньняў практычнай працы організатараў.

3. Організатар па коопэраваньні жанчын сваю працу праводзіць у поўным узгадненьні яе з жанорганізатарам пры мясцовых парторганах пад агульным кіраўніцтвам праўленьня коопэратыву.

4. У абавязкі організатара па коопэраваньні сялянак уваходзіць: а) коопэраваньне сялянак, збор паёў, а таксама і вядзеньне вучоту коопэраваных, б) правядзеньне працы сярод беднячак у галіне ўцягненьня іх у коопэрацыю за кошт фонду па коопэраваньні беднаты, в) садзейнічаньне правядзеньню работы па распаўсюджваньні коопэрацыйных ведаў сярод сялянак, шляхам правядзеньня сходаў сялянак, на якіх ставіць даклады аб коопэрацыі, правядзеньня гутарак на коопэрацыйныя тэмы, організацыі чытак коопэрац. часопісаў, газэт, г) сачыць за выкананьнем плянаў бытавой працы спажывецкага таварыства, д) весьці вучот і вывучаць жаночы коопэрацыйны актыў, і дапамагаць праўленьню спажывецкага таварыства ў справе высоўваньня сялянак на адказную коопэрацыйную працу. Сачыць за працай прымацаваных дэлегатак да спажыўтаварыства.

## Аб прадстаўленьні кон'юнктурных зьвестак.

*Да ўсіх корэспандэнтаў кон'юнктуры.*

За сьнежань месяц у студзені паступіла ў плянава-эканамічнае бюро 23 корэспандэнцкіх зьвесткі. З іх ад Белкоопсаюзу—7, ЦРК і Гар. спаж. т-ваў—4, Райсаюзаў—2, Сельспаж. т-ваў—10.

Гэтыя зьвесткі па свайму зьместу і часу паступленьня далі магчымасьць Белкоопсаюзу пашырыць якасныя паказальнікі кон'юнктуры за сьнежань м-ц і паскорыць распрацоўку матар'ялаў, што з пункту погляду кіраўніцтва ў сыстэме і сваечасовага рэагаваньня на тыя ці іншыя зрухі на рынку мае вялікае значэньне.

На аснове дадзеных нам зьвестак за першы месяц, складаецца поўная ўпэўненасьць у правядзеньні ў жыцьцё мерапрыемстваў па організацыі сеткі корэспандэнтаў.

Плянава-Эканамічнае Бюро БКС зьвяртаецца да ўсіх організацый, якія яшчэ ня вылучылі корэспандэнтаў, вылучыць іх зараз-жа, з тым разьлікам, каб яны пасьпелі за люты прыслаць зьвесткі БКС'у. У прыватнасьці, просьба *да ўсіх Райсаюзаў і аддзяленьняў БКС* ня толькі вылучыць корэспандэнтаў, але і сыстэматычна наглядаць за прадстаўленьнем імі зьвестак.

Плянава-Эканамічнае Бюро зьвяртае ўвагу ўсіх корэспандэнтаў на неабходнасьць прадстаўленьня зьвестак, як можна раней.

Адсутнасьць тых ці іншых лічбаў ці выкладак не павінна перашкаджаць сваечасовай прысылцы корэспандэнцый.

Заг. Плянава-Эканам. Бюро *Гармізе.*

Кон'юнктурысты *Дзёмін.*

# АФІЦЫЙНЫ АДДЗЕЛ

## Аб забароне патрабаваньня спрэваздачнасьці па неўстаноўленых формах.

*Усім хлебазагатоўчым арганізацыям.*

У пачатку кампаніі былі ўстаноўлены пэўныя формы справаздачнасьці ніжэйшых і сярэдніх зьвеньняў асноўных хлебазагатоўцаў, выкладзеныя ў інструкцыі Наркамгандлю СССР № 6/205 *). Між тым на мясцох наглядаецца, што нізавыя і сярэднія зьвеньні хлебазагатоўцаў загружаюцца патрабаваньнем рознага характару справаздачнасьці, а таксама справак справаздачнага характару па неўстаноўленых формах ці асобамі і арганізацыямі, якія ня маюць на гэта права.

Такога парадку дзеяньні адцягваюць, асабліва нізавую сетку, ад непасрэднай загатоўчай працы, ватрымліваюць складаньне ўстаноўленай справаздачнасьці, у выніку чаго грунтоўная справаздачнасьць недапушчальна спазьняецца.

Прапануецца: а) у адносінах справаздачнасьці сярэдніх і нізавых зьвеньняў асноўных хлебазагатоўцаў у дасканальнасьці кіравацца вышэйпаказаным абежнікам Наркамгандлю СССР, б) нізавым зьвеньням хлебазагатоўцаў прапануецца ня выконваць незаконныя патрабаваньні справаздачнасьці па неўстаноўленых формах і ад асоб і арганізацый, ня маючых на гэта права.

Наркамгандлю СССР *Мікаян.*

№ 6/1914, 13/XII—1928 г.

## Аб парушэньні з боку акруговага апарату і гаспадарчых органаў дырэктываў і плянаў па загатоўках.

*(Выпіска з пратаколу № 3 пасяджэньня калегіі НК РСІ БССР ад 5 студзеня 1929 г.).*

Пастанавілі: 6. Прапанаваць Белкоопсаюзу, Белсельсаюзу Белмясгандлю, Скурсындыкату і Папертрэсту прыняць усе меры да таго, каб належныя зьвесткі аб праводзімых загатоўках і выдаткаваньні сельскагаспадарчых прадуктаў і сыравіны, а таксама і аб хлебазагатоўчых опэрацыях, даваліся Наркамгандлю ва ўстаноўлены тэрмін.

За Наркома РСІ *Ракаў.*

---

*) Азначаная інструкцыя прыстасавана да ўмоў БССР і пагэтаму абавязковымі зьяўляюцца тыя формы і тэрміны прадстаўленьня, якія зацьверджаны НК РСІ БССР і пералічаныя ў абежніку БКС № 680 ад 12-I—29 г. (гл. Бюлетэнь БКС № 3 (12) за 1929 г.).

# НАША КОНСУЛЬТАЦЫЯ

## Аб сацыяльным страхаваньні коопэрацыйных працаўнікоў.

1. Сацыяльнаму страхаваньню падлягаюць **усе** рабочыя, служачыя спаж. т-ваў, ЦРК і Саюзаў, якія працуюць па найму, ў тым ліку і выбарныя. Не падлягаюць сацыяльнаму страхаваньню асобы, якія займаюць у вясковых мясцовасьцях выбарныя пасады ў спажывецкай коопэрацыі і маюць уласную, або ў складзе сялянскага двара, сялянскую гаспадарку і пры тым атрымліваюць за сваю працу ў коопэратыве ўзнагароду, меншую ўстаноўленага для данае мясцовасьці мінімума заработнае платы. (Тлумачэньне Саюзнага Савету Сац. Страх. пры НКПрацы СССР ад 12-VI—28 г. № 418—«Изв. НКТруда» 1928 г. № 34-35). Мінімум заработнае платы для вясковых мясцовасьцяй БССР устаноўлены пастановай НКПрацы БССР ад 28-IX—28 г. —8 руб. у месяц. (Бюл. СНК БССР за 1928 г. № 13 і за 1927 г. № 2). З прычыны таго, што ў спажывецкіх таварыствах няма працаўнікоў з такім акладам, трэба лічыць, што ўсе выбарныя працаўнікі с. т. падлягаюць сацыяльнаму страхаваньню.

Да 25-VIII—28 г. па гэтаму пытаньню дзейнічаў іншы абежнік НКПрацы СССР ад 25-VIII—23 г. № 47-48 («Изв. НКТруда», 1923 г. № 5-29), згодна якога не падлягалі сацыяльнаму страхаваньню члены праўленьня і рэвіз. камісій с. т., якія мелі вясковую гаспадарку і для якіх зарплата не зьяўлялася асноўнаю крыніцаю іх існаваньня.

2. Асобы, якія працуюць у некалькіх установах, падлягаюць сацыяльнаму страхаваньню па ўсіх займаемых пасадах.

3. Асобы, якія атрымліваюць за сваю працу камісыйную ўзнагароду і, наогул, якія не працуюць па найму (акрамя выбарных), сацыяльнаму страхаваньню не падлягаюць.

Увага: а) карабейнікі сп. таварыстваў, якія атрымліваюць сталую стаўку, пры ўмове, што яны прадаюць тавар і вядуць загатоўкі па вызначаных коопэратывам цэнах і загатоўленае здаюць у коопэратыў па гэтых-жа цэнах, сацыяльнаму страхаваньню падлягаюць. Для таго, што ў зарплату такіх карабейнікаў уключаны выдаткі на аплату іх разьездаў па раёну, кватэрных і сутачных, Белкоопсаюз узбудзіў перад Галоўсацстрахам пытаньне аб тым, з якое часткі іх ставак трэба плаціць страхавыя ўзносы, па вырашэньні якога паведамім нашу сыстэму. Карабейнікі, якія працуюць **толькі за камісійную ўзнагароду** (процант ад сумы загатовак), ня лічацца служачымі коопэратыва і сацыяльнаму страхаваньню не падлягаюць;

б) перавозка тавараў для коопэратыва сродкамі і на конях возчыкаў утвараецца не па працоўнаму дагавору, а па дагавору падраду, пагэтаму такія возчыкі сацыяльнаму страхаваньню не падлягаюць.

4. У агульную суму заработнае платы, з якое вызначаюцца ўзносы на сацыяльнае страхаваньне, уключаюцца: а) узнагарода за нармальную *) працу, незалежна ад спосабу расплаты (штомесячнага, штодзённага, зьдзельнага і г. д.), б) узнагарода за звыштэрміновую працу, і за выработку звыш нормы, в) каштоўнасьць узнагароды даваемай у натуры: кватэра і камунальнае абслугоўваньне, калі яны, згодна колектыўнае ўмовы, уключаюцца ў зарплату, а не даюцца дарэмна, г) прэміяльныя і іншыя спэцыяльныя віды ўгнагароды. (Глядзі аб гэтым пастанову ЦВК і СНК СССР 26-II—25 г. «Изв. НКТруда» № 14 за 1925 г.), д) зарплата за ўсялякую выпадковую працу па найму: мыцьцё падлогі, дробны рамонт, перапрацоўка загатоўленае сыравіны і г. д.

5. У заработную плату ня ўключаюцца і страхавыя ўзносы ня выплачваюцца з наступных сум: а) выхадная дапамога пры звальненьні, б) сутачныя і іншыя выдаткі пры камандыроўках, в) пад'ёмныя і сутачныя пры пераводах, г) кампэнсацыя за нескарыстаны водпуск, д) наградныя, прэміі, калі яны выд юцца адначасова і не прадугледжаны папярэдняю згодаю, кол. умоваю, або законам, а вызначаюцца па погляду адміністрацыі, е) узнагарода за спэцыяльныя даручэньні, г. зн. за спэцыяльныя заданьні, выкананьне якіх не ўваходзіць у абавязкі данае асобы.

(Глядзі пастанову Саюзнага Савету СЗ. 6-X—27 г. «Изв. НКТруда» 27 г. № 48),

ж) каштоўнасьць спэцвопраткі.

6. *Узносы на сацыяльнае страхаваньне спажывецкія коопорганізацыі выплачваюць у разьмеры 16 проц. ад агульнае сумы заработнае платы (гл. п. 4) плюс 1,2 проц. на жыльлёвае рабочае будаўніцтва, разам 17,2 проц.*

7. Узносы за страхаваньне сэзоных і часовых рабочых і служачых спажывецкае кооперацыі ўплачваюцца ў такіх самых разьмерах, як і за сталых рабочых і служачых. *За студэнтаў, пасылаемых у кооперацыю на практыку, сац. страхаваньне ўплачваецца ў разьмеры 6,6 проц.*

(Глядзі пастанову СНК ад 9-II—27 г., Зб. Зак. СССР за 27 г. № 10, арт. 102).

8. Падкантрольныя „Нарпіту“ кооперацыйныя сталоўкі, буфэты, чайныя, кухні—плацяць сацыяльнае страхаваньне па ільготнаму тарыфу—10% зарплаты (Пастанова ЦВК і СНК СССР ад 18-IX—25 г. „Изв. НКТ“ № 42 за 1925 г.).

*) Г. зн. за нармальны працоўны дзень (6 або 8 гадзін).

---

**У кооперацыі няма месца растратам і растратчыкам. Ачысьцім кооперацыйны апарат ад раскрадчыкаў грамадзкага дабра.**

**Работніца і сялянка, рабоча-сялянская моладзь—у рады кооперацыі. Будуйце новы социялістычны быт.**

# ХРОНІКА

## *Па Белкоопсаюзу.*

**Па вясковай сетцы** заданьне па збору паявых капіталаў на 1-ы квартал выканана нездавальняюча. Сабрана 690,4 тысячы рублёў, замест 1.404,4 тысячы руб., што складае толькі 66,1%.

Разгортваньне працы па збору паёў праходзіла зусім марудна. Ня было зьвернута належнай увагі з боку коопэрацыйнага апарату і ня быў дастаткова ўцягнуты ў гэтую працу коопэрацыйны актыў.

Фактычна пералом у бок павялічэньня збору паёў адзначыўся толькі ў апошніх дэкадах сьнежня м-ца, дзякуючы чаму ў сьнежні сабрана больш чым за два папярэдніх месяцы (сьнежань—348 тыс. р., лістапад—227 тыс. р., кастрычнік—115 тыс. руб.).

Зусім нездавальняючае выкананьне дырэктыў па збору паёў у Бабруйскім саюзе—57,43%, Гомельскім—57,48%, і па Менскаму Аддзяленьню 53,07%. У сувязі з невыкананьнем квартальнага заданьня Праўленьне БКС абавязала ўсе Саюзы і Аддзяленьні пад асабістую адказнасьць старшынь праўленьняў кожнага Саюзу і загадчыкаў аддзяленьняў, прыняць усе практычныя мерапрыёмствы, прапанаваныя праўленьнем БКС (прат. № 36/166 10/XII) і забясьпечыць поўнае выкананьне заданьняў па збору паёў у II-ім квартале.

**Па рабочай сетцы** агульнае выкананьне збору паёў складае 83,4% кварт. заданьня. Разам з гэтым адзначаецца слабае выкананьне пляну па Менскаму ЦРК—74,4%, па Рэчыцкаму—64,2%, Аршанскаму—60,7%.

Прапанована ўсім Цэрабкопам пасіліць збор паёў у II-ім квартале 1928/29 г., і асабліва па адстаючым Цэрабкоопам, з такім разьлікам, каб у II-м квартале сабраць недабор І-га кварталу і вызначаную колькасьць на II-гі квартал.

* Па просьбе Днепрасаюзу Праўленьне БКС адпусьціла Быхаўскаму ҐарПО 4.000 руб. з фонду Цэнтрасаюзу на будаўніцтва нізавой сеткі, для пабудовы хлебапякарні.

* Праўленьне БКС зацьвердзіла на 1928/29 г. плян правядзеньня замежных і ўнутрысаюзных экскурсій з мэтай вывучэньня практыкі гандлю, загатовак і г. д.

## *Па Саюзах.*

* Праўленьне Белкоопсаюзу, заслухаўшы справаздачу Бабруйскага Саюзу *аб выкананьні квартальнага заданьня па збору паёў,* ухваліла наступнае:

а) Прапанаваць праўленьню Бабруйскага Саюзу даць дырэктыву сетцы аб няўхільным захаваньні тэрмінаў пагашэньня пайшчыкамі запазычанасьці па паявых узносах.

б) Поўнасьцю выканаць дырэктыву Праўленьня БКС ад 10/XII аб пераводзе спажыўтаварыстваў, дзе сярэдні пай дасягнуў 6 руб., на 15 руб. пай і аб зборы з заможнай часткі пайшчыкаў поўнага 15 руб. паю. Поўнасьцю сабраць паявыя ўзносы спаж. т-ваў у Спажыўсаюз.

в) На працягу другога кварталу дабіцца поўнага пагашэньня ўсімі пайшчыкамі (акрамя беднаты) запазычанасьці.

г) Ва ўсіх спажыўтаварыствах скліканць пашыраныя пасяджэньні праўленьня сумесна з актывам і прадаўцамі. Уцягнуць актыў у працу па збору паёў, даць пад асабістую адказнасьць загадч. крам цьвёрдыя заданьні па збору паёў.

д) Інструктарам даць дырэктыву аб праверцы збору паёў у глыбінных пунктах, ня выканаўшых заданьня за 1-ы квартал і ўзмацніць гэтую працу ў даных пунктах.

е) Лічыць няправільнай практыку прэміраваньня актыву за збор паёў, якое ўжываецца ў спаж. т-вах Бабруйскага Саюзу.

Зьвярнуць увагу ўсіх Саюзаў на недапушчальныя зьявішчы, якія назіраюцца ў некаторых спаж. т-вах у тым, што збор паёў праходзіць праз спыненьне і абмежаваньне водпуску дастатковых тавараў.

Прапанаваць усім Саюзам перадаць спаж. т-вам выдзеленыя сродкі з прыбыткаў Саюзаў на коопэраваньне беднаты і шырэй разгарнуць гэту працу, забясьпечыўшы найбольшую організацыю беднаты ў коопэратывах да пачатку перавыбарчай кампаніі ў спажывецкай коопэрацыі.

# ПАПРАЎКІ.

У № 1—2 (10—11) „Інформацыйнага Бюлетэню БКС“ закраліся наступныя памылкі:

1. На 5 старонцы 13-ы радок зьнізу надрукавана—„паказаных па п. 4“, а трэба чытаць „паказаных па п. 4 плюс убыль ад пера апрацоўкі“.

2. На 15 старонцы 7-ы радок зьверху надрукавана—„радку „Разам“ у табл. № 4 гэтай справаздачы (гл. далей)“, а трэба чытаць—„радку „Разам“ у табл. № 3 гэтай справаздачы“.

3. На 16 старонцы 23-ці радок зьверху надрукавана—„прадпрыемства будзе прамым вытворчасьці апошняга і г. д.“, а трэба чытаць—„прадпрыемства будзе прамым выдаткам вытворчасьці і г. д.“.

4. На 18 стар. 16-ы радок зьнізу надрукавана—„Па радку „вытворчыя прадпрыемствы“ у графе „Продана“—сума“, а трэба чытаць—„Па радку „вытворчыя прадпрыемствы“ паказваецца найменьне прадпрыёмства, а ў графе „Продана“—сума“.

У № 3 (12) маюцца наступныя памылкі:

1. На 11 старонцы 2-гі радок зьнізу надрукована—„хуткапсуючыхся прадуктаў (ф. № 2—3-я) высылаюцца“, а трэба чытаць—„хутка-псуючыхся прадуктаў (ф. № 2—заг.) высылаюцца“.

2. На 12 старонцы 18 радок зьверху надрукавана—„б) картку аб працы (ф. № 1 ЦСУ)—не пазьней 65 дзён пасьля“, а трэба чытаць—„б) картку аб працы (ф. № 1 ЦСУ)—не пазьней 5 дзён пасьля“.

3. На 16 старонцы 7-ы радок зьнізу надрукавана—„Увага 2. Колектыўнаю ўмоваю магчыма павялічаць і памяншаць нормы спэцвопраткі“, а трэба чытаць—„Увага 2. Колектыўнаю ўмоваю магчыма павялічаць і паляпшаць нормы спэцвопраткі“.

4. На 11 старонцы 9 радок зьнізу надрукавана—„Гадавая справаздача за 1927-28 г. (ф. № 1)“, а трэба чытаць—„Гадавая справаздача за 1927-28 г. (ф. № 2)“.

# ЗЬМЕСТ



## Да нашых падпісчыкаў.

На гэтым нумары „Інформацыйны Бюлетэнь Белкоопсаюзу“ часова спыняе сваё існаваньне з прычыны папяровага крызысу.

Падпісчыкі, якія пераслалі падпісную плату непасрэдна ў рэдакцыю „Бюлетэню“, атрымаюць на астатнюю суму падпіскі аб'яднаны коопэрацыйны часопіс „Шлях коопэрацыі“.

Цэрабкоопам, а таксама Саюзам, якія прыслалі толькі заяўкі на падпіску для сябе і сваіх спажыўтаварыстваў і атрымоўвалі на працягу 4-х месяцаў „Інформацыйны Бюлетэнь Белкоопсаюзу“, будзе залічана плата толькі за час існаваньня „Бюлетэню“.

Спажывецкая коопэрацыя цяпер будзе прымаць актыўны ўдзел у часопісу „Шлях коопэрацыі“, пагэтаму неабходна ўсім організацыям спажывецкай коопэрацыі падпісацца на вышэйпаказаны часопіс.

РЭДАКЦЫЯ.

